*Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі*

# МАЛАДЫ АРАТЫ

**Орган ЦК ЛКСМБ.**
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

| № 16 | Лістапад 1925 г. | Менск |
|---|---|---|



## Заданьні на 8-мы год.

*Сёмая гадавіна нашай організацыі* адбываецца ў той час, калі ўвесь Расійскі Ленінскі Комсамол перажывае, некаторым чынам, пераломны пэрыод. Ён выбягае з тых агульных умоў, выбягае з таго становішча, якое перажывае наогул увесь СССР.

Як у горадзе, гэтак і на вёсцы Савецкі Саюз адчувае рост народнае гаспадаркі. Растуць соцыялістычныя элемэнты нашага гаспадарства (дзяржаўная прамысловасьць, коопэрацыя і г. д.), разам з тым адчуваецца рост прыватнага гандляра, рост кулацтва разам з ростам серадняцкае гаспадаркі і ў большай меры, чым раней, пролетарызацыяў бедняка. Утвараюцца новыя ўзаемаадносіны паміж горадам і вёскаю на падставе агульнага росту гаспадарства. Як у горадзе, гэтак і на вёсцы прымячаецца рост запатрабаваньняў моладзі.

*Батрацкая і бядняцкая моладзь* цягнецца да абароны сваіх матарыяльных інтарэсаў, да ўзьняцьця сваёй гаспадаркі. Серадняцкая моладзь імкнецца да гэтага яшчэ ў большай меры. Гэта вынік агульнага росту сельскай гаспадаркі.



Сак-р ЦК ЛКСМБ А. Самахвалаў.

Бядняцкія і серадняцкія масы моладзі дабіваюцца палепшаньня свайго матарыяльнага становішча праз лепшую пастаноўку гаспадаркі, праз пераход да новых формаў гаспадаркі: шматпольле, пасеў траў, палепшаньне жывёлы і г. д. Бядняцкая серадняцкая моладзь імкнецца [illegible]

[illegible] самолу. Разам з ажыўленьнем саветаў, з пашырэньнем іх працы, палепшаньнем і формаў і зьместу працы сельскіх саветаў павінна быць яшчэ больш ажыўлена праца комсамольскай ячэйкі.

Трэба пераглядзець формы гэтай працы: сходы, палітычныя гурткі, наша праца ў хаце-чытальні і г. д. Сходы ячэек і гурткоў павінны больш дасканальна падрыхтоўвацца, каб кожны комсамолец на іх мог прыняць актыўны ўдзел у абгаварваньні ўсіх пытаньняў, каб была магчымасьць поўнасьцю выказаць сваю думку, каб сход ячэйкі даў яму што-небудзь новае дзеля яго разьвіцьця, дзеля яго працы сярод беспартыйнай моладзі.

Гэта таксама трэба зрабіць адносна нашых гурткоў.

Разам з гэтым трэба зьвярнуць увагу і на якасьць нашай працы, на яе зьмест. Бюро ячэйкі павінна добра падрыхтаваць усю працу ячэйкі, кожнае пытаньне, кожны асобны від працы, мяркуючы, каб усё тое, што яно намячае, давала пэўныя вынікі, было зьвязана з сучаснымі запатрабаваньнямі моладзі, яе цікавіла.

Агульнымі словам, мо' й вельмі рэволюцыйнымі, добрымі рэзолюцыямі мала чаго зробіш. Сялянская моладзь расьце і культурна і політычна. Трэба сачыць за пэўным правядзеньнем у жыцьцё [illegible]чанай працы. Трэба рабіць сапраўдную спр[illegible] ў галіне асьветы, [illegible]авочныя

Ячэйка КСМ павінна шукаць сараўдных спосабаў дапамогі беднаце, павінна клапаціцца, каб ільготы беднаце былі ёю поўнасьцю скарыстаны, каб роля беднаты ў савеце, кооперативе павялічвалася, каб яе культурны і політычны ўзровень узьнімаўся. На чарговых перавыбарах сельсаветаў гэту працу сярод беднаты комсамольскія ячэйкі разам з партыяй павінны распачаць і прасоўваць упярод.

Патрэбна рашучая барацьба *за ўпарадкаваньне жыцьця і быту комсамольцаў*, а таксама і беспартыйнай моладзі. Распуства, п'янства, недысцыплінаванасьць, якія маюцца сярод шэрагаў нашых ячэек, вынік і спадчына старога ладу жыцьця, супэрэчаць ня толькі нашай комсамольскай працы, але супярэчаць і запатрабаваньням разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Чалавек, ня ўмеючы добра наладзіць сваё ўласнае жыцьцё, сваю працу і адпачынак, паплыве па хвалях жыцьця, будзе зьменены і ні ў якім разе ня здолее быць павадыром, кіраўніком мас. Ён няпрыметна для сябе будзе адкідацца назад да настрояў бунтарства, да настрояў інтэлігэншчыны ў самым дрэўным сэнсе гэтага слова. Змаганьне з гэтымі балячкамі трэба злучыць разам з наладжваньнем радушнага адпачынку-гульняў і г. д. Патрэбна ўмела злучаць працу *па політычнаму выхаваньню моладзі* разам з яе *культурным, бытавым* выхаваньнем. Патрэбна шырокае абгаварваньне ўсіх бытавых пытаньняў, усямерна пашыраючы тыя аб'яднаньні, якія маюць на мэце ўвядзеньне новага быту сярод моладзі: гурткі фізкультуры, чырвоныя вячоркі і г. д. Трэба зьвярнуць увагу і наладзіць клюбную працу ў нашых ячэйках, дабіваючыся, каб хата-чытальня была месцам ня толькі політычнай вучобы, але разумнага адпачынку.

Больш, чым калі-б то ні было, комсамольскай ячэйцы трэба сваю працу распачаць у шырокіх масах моладзі, не дапушчаючы адрыву ячэйкі ад беспартыйных, не дапушчаючы таксама і адрыву актыву комсамолу ад комсамольскай радавой масы.

Разам з гэтым *кіраўніцтва ўнутры КСМ* трэба паставіць так, каб яно гаварыла ня толькі, што рабіць, а больш усяго, як рабіць, зьнішчаючы непатрэбныя цыркуляры, паперы і г. д., чым комсамол грэшыць вельмі і вельмі многа. „Лепш менш ды лепш" розных цыркуляраў, розных пасяджэньняў комісій, падкомісій, сходаў. Больш увагі іх якасьці.

*Восьмая гадавіна ЛКСМ павінна ажывіць нашую працу, паставіць яе на новыя рэйкі, адпавядаючыя росту актыўнасьці і запатрабаваньням моладзі, павінна даць штурхач социялістычнаму будаўніцтву на вёсцы, штурхач выкананьня нашай ролі, як памоцніка партыі ў яе працы,*

**А. Самахвалаў.**

---

# Комсамол Беларусі ў лічбах да 7 гадавіны.

Беларуская організацыя комсамолу за пэрыод часу ад 6-ай да 7-ай гадавіны вырасла на 14.794 комсамольцаў і к сучастнаму моманту яна налічвае 36.140 асоб, з якіх: 34.211 сяброў КСМ і 1929 кандыдата, КСМ.

Рост організацыі ў асноўным ішоў за кошт сапраўдных сяброў КСМ, аб чым сьведчаць лічбы зьмяшэньня процан. кандыдатаў да 5 проц.

Дзяўчат у організацыі за гэты пэрыод часу павялічылася на 3.240 асоб, а хлапцоў на 11.665 асоб. Да 6-ай гадавіны КСМ ахоп дзяўчат выяўляўся ў 15,5 проц. Параўноўваючы даны проц. з проц. уцягненьня дзяўчат у саюз к 7-ай гадавіне КСМ, заўважым [illegible]

[illegible]

з якіх беднякоў 13.328 ці 39 проц. і серадняков 42.75 ці 12,5 проц.), саматужнікаў-кустароў—1.174 або 3,4 проц. і іншых—2.169 або 6,3 проц. З гэтага відаць, што пануючай колькасьцю ў саюзе зьяўляюцца сяляне.

Параўноўваючы социяльны склад з сучасным момантам, з момантам 6-й гадавіны саюзу заўважым што рост саюзу ў асноўным ішоў за кошт сялян, што відаць з павялічэньня проц. данай социяльнай групы на 4,1 проц.

Агульная колькасьць партыйцаў у саюзе налічваецца 2,119 асоб.

Гэтая колькасьць павялічылася ў адносінах [illegible] стан[illegible]

# Піонэрская організацыя к 7-мігодзьдзю КСМБ.

## Найлепшы падарунак комсамолу—рост піонэр'організацыі.

З невялічкага ліку атрадаў раней, наша організацыя зараз налічвае больш за 45,000 піонэраў. К гэтаму юбілею лепшы падарунак комсамолу—гэта рост організацыі за лік сялянскіх дзяцей. Мы ўжо зараз маем у вёсцы каля 400 атрадаў юных піонэраў. Гэта яскрава сьведчыць аб імкненьні дзяцей да організацыі пад кіраўніцтвам комсамолу.

Мы маем ня толькі дасягненьні ў росьце, але і ў працы па выхаваньні гэтых дзяцей і росьце ўплыву на грамаду неорганізаванае дзетвары. Комсамольская організацыя ў асобе піонэраў мае шырокую магчымасьць зьдзяйсьняць уплыў на ўсё падрастаючае дзецкае пакаленьне. Калі зусім нядаўна глядзелі на піонэр'організацыю, як на пацеху, то зараз погляд ужо зьмяніўся ў бок удзяленьня большае ўвагі гэтай орган'зацыі, як політычна аформленай, прымаючай актыўны ўдзел ува ўсёй барацьбе працоўнае клясы.

Піонэры разгарнулі досыць вялікую працу ў школах, дзякуючы чаму школьная дзетвара бліжэй падыходзіць к грамадзянскаму жыцьцю.

Зараз у працы зьнішчаецца компанійнасьць; узяты напрамак на паглыбленьне выхаваўчае працы.

### Піонэрская праца на вёсцы.

Асабліва важна зазначыць працу піонэраў на вёсцы. Праўда, організацыя ў вёсцы мае за сабою вельмі маленькую гісторыю. Толькі ўсяго ў прошлым годзе распачата шырокая праца сярод сялянскіх дзяцей і, зразумела, што дасягненьні там меншыя, чымся ў горадзе. Умацаваньне правіл гігіены, санітарыі, прыпыненьне курэньня, дысцыпліна,—вось што прыцягвае ўвагу к дзіцячаму руху ў вёсцы. Ёсьць дасягненьні ў сэнсе вывучэньня формаў працы з сялянскімі дзецьмі. Калі зусім нядаўна шукалі глебу дзеля працы сярод сялянскіх дзяцей, то зараз яна ўжо знойдзена. асобныя віды працы пачынаюць афармляцца. Можна адзначыць, як дадатны бок, гэта тое, што каля 25-30 проц. дзяўчынак у піонэрскіх атрадах.

### Выявіць недалікі і зьнішчыць іх.

К 7-мігодзьдзю комсамолу нам асабліва важна адзначыць тыя недалікі, якія выявіліся ў працягу нашае працы, каб комсамол, як кіраўнік, [illegible] будучыне правільна накіраваць сваё [illegible]. А недахваты ў працы ёсьць. Галоўнымі з іх гэта тое, што комсамольская ячэйка яшчэ добра не ўявіла, як патрэбна кіраваць атрадамі юных піонэраў.

Часта бывае, што ячэйка абмяжоўваецца толькі заслухоўваньнем справаздач. Комсамольцы ня досыць цікавяцца працай свайго атраду. Унутрывыхаваўчая праца ў большасьці атрадаў яшчэ слабая. У нас маюцца сярод піонэраў няпісьменныя дзеці. Масавая праца і праца наогул сярод дзяцей непіонэраў слаба разгорнута. Атрады іншы раз займаюцца толькі гутаркамі й гульнямі, ніякае грамадзянска-карыснае працы не вядуць. Вось чаму нам асабліва патрэбна зьвярнуць увагу на зьнішчэньне гэтых недахватаў. Калі піонэры ня выявяць свой грамадзянска-карысны твар, то й ня будуць карыстацца аўторытэтам. Піонэры павінны працаваць дома, весьці барацьбу за чыстату, за газэту, за прыбліжэньне бацькоў да грамадзянскага жыцьця, працаваць сярод усяе моладзі вёскі. Усім гэтым, зразумела, павінна кіраваць комсамольская ячэйка.

### Мы павінны ўцягнуць усіх дзяцей у піонэр-атрад.

Аб піонэрах ведае ўжо ня толькі настаўніцтва, але й самыя глухія вёскі, і калі мы ня зможам іх ахапіць, гэту падрастаючую актыўнасьць дзяцей, яна выльлецца ў другія формы, непажаданыя нам. Кожная ячэйка павінна весьці працу сярод дзяцей, выпаўняючы лёзунг 4-ай конфэрэнцыі: „На кожную ячэйку—атрад Ю. П.“. Гэту працу патрэбна весьці не зналёту, а абдумана, трэба загадзя падрыхтавацца, выдзеліць комсамольцаў дзеля азнаямленьня з працай. Справа, вядома, не ў формальным выпаўненьні дырэктыў конфэрэнцыі і ня ў колькасьці ўтвараемых атрадаў, не па гэтым мы будзем судзіць посьпехі комсамолу ў галіне працы сярод дзяцей, а ў формах выхаваньня, наколькі ячэйка змагла сваёю працаю падрыхтаваць сабе зьмену сьвядомых комсамольцаў.

### Неабходна тлумачэньне піонэрам іх працы.

Трэба больш азнаёміць дзяцей з тэй працай, якую павінна праводзіць піонэрская організацыя, уцягваць яе ўва ўсе захады ячэйкі комсамолу, а самае галоўнае, каб атрад ЮП працаваў сярод дзяцей, рабіў уплыў на іх. Трэба пашырыць працу ў школе, прыцягваць школьнікаў да ўсіх мерапрыемстваў улады ў савецкім будаўніцтве.

Ясна, што гэта вымагае лепшага кіраўніцтва з боку комсамольскіх ячэек. Ячэйка і кожны комсамолец асобна павінны адчуваць вялікую адпаведнасьць за выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Трэба ставіць на абгаварваньне ня толькі даклад важатага, але і асобныя пытаньні працы. Часьцей ставіць вырашэньні па пытаньнях дзетруху на сходах, растлумачваць комсамольцам значэньне піонэрорганізацыі,—тады яны больш зацікавяцца піонэрскім атрадам.

### Лепшыя комсамольцы—на піонэр-працу.

Комсамольская ячэйка павінна выдзеліць лепшых комсамольцаў для працы сярод піонэраў, якія змогуць ім што-небудзь даць у сэнсе выхаваньня. Ячэйка павінна сачыць за тым, каб з піонэр-атраду систэматычна перадаваліся лепшыя піонэры ў комсамол, што будзе спрыяць комсамольскаму ўплыву ў атрадзе. Ня менш важнае значэньне мае павялічэньне процанту дзяўчат у атрадзе.

### Праца павінна весьціся на роднай мове.

Усю працу патрэбна перавесьці на родную мову, на тую мову, на якой дзеці гавораць дома і вучацца ў школе; тады піонэры лягчэй зразумеюць тое, што праводзіцца ў атрадзе. Трэба менш гаварыць, а больш адшукваць практычных мерапрыемстваў, больш выяўляць недахваты, і тады, вядомая справа, комсамол зможа сабе падрыхтаваць здаровую моцную зьмену будаўнікоў новае вёскі.

**Мэерзон.**

# Савецкая фізкультура—дзіця комсамолу.

## Юбілей комсамолу—юбілей савецкай фізкультуры.

Фізкультура ў СССР і на Беларусі заваёўвае сабе патрэбнае месца. Яна шырока ахапіла гушчы гарадзкой рабочай моладзі, вучняў, піонэраў і за апошні год пачынае шпарка прасоўвацца ў вёску.

### Некалькі слоў з гісторыі.

Усе дасягненьні, якія мы цяпер маем у галіне фізкультуры, у большай частцы здабыты дзякуючы намаганьням комсамолу.

Да Лютаўскай рэволюцыі рабочага спортыўна-гімнастычнага руху на Беларусі ня было зусім. Толькі пасьля Лютага пачынаюцца нязначныя імкненьні ўтварыць сярод рабочых гушч спортыўна-гімнастычныя організацыі. І то рабочых яны амаль што зусім не ахаплялі. Організацыі, якія ўтварыліся пасьля Лютаўскай рэволюцыі, зьяўляліся галоўным чынам дробна-буржуазнымі нацыянальнымі організацыямі. Тут і „маккабі"—жыдоўская нацыянальная організацыя, тут і выдатныя скауты, якімі галоўным чынам захаплялася польская дробна-буржуазная моладзь.



Нядаўна ў Менску адбыўся 1-шы Ўсебеларускі зьезд фізкультурнікаў. На нашым малюнку—прэзыдыум зьезду.

Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі з утварэньнем комсамолу, з пашырэньнем яго працы, ён разам з аддзелам усеагульнага ваеннага абучэньня прыступае да ўтварэньня рабоча-сялянскіх спортыўных організацый. Гэтыя організацыі былі двух тыпаў. Першым тыпам зьяўляліся спортыўныя ўзводы пры дапрызыўных пляцоўках, другім—камсамольскія спорторганізацыі. Цераз тысячы перашкод прашлі гэтыя організацыі. Ня было сродкаў дзеля падрыхтоўкі сваіх рабочых кіраўнікоў. Але ўсё-ж такі шмат чаго ўдалося дабіцца.

У 1923 годзе дзяржава прышла на дапамогу Комсамолу, утварыўшы саветы фізычнай культуры, у якія ўвашлі прадстаўнікі аддзелаў народнай асьветы, профсаюзаў, цэлага шэрагу другіх грамадзянскіх і дзяржаўных організацый. Праца пачала шырока разгортвацца.

### Нашы дасягненьні.

Да 2-га Ўсебеларускага зьезду фізкультурнікаў (лістапад 1925 году) мы мелі ўжо наступныя дасягненьні. Акрамя чырвонай арміі, у якой на абшарах Беларусі займаецца да 30-40 тысяч чалавек, у нас сярод шырокага насельніцтва фізкультураю ахоплены 71.691 чалавек. Праўда, большасьць ахоплена ў горадзе (56.310 чалавек), але нямала ўжо і ў вёсцы (15.281 чалавек) ахоплена фізкультураю у раённых цэнтрах і ў самых вёсках.

Пры дапамозе комсамолу ўтвораны раённыя саветы фізкультуры, утвараюцца гурткі ў вёсках, пранікае фізкультура і ў вясковыя школы.

### Разам з дасягненьнямі многа недахватаў,

Рух фізкультуры на Беларусі расьце з кожным днём, захоплівае ўсё новыя і новыя шэрагі працоўнага насельніцтва. Патрэбны моцныя, добра падрыхтованыя кіраўнікі дзеля таго, каб ахапіць гэты рост. А кіраўнікоў у нас пакуль што, асабліва сваіх комсамольцаў, яшчэ мала. Мала ў нас яшчэ і сродкаў, і абсталяваньня, і будынкаў дзеля заняткаў. Няма прыстасованых да вёскі спортыўных гульняў, якія-б маглі захапіць вясковую моладзь, органічна зьвязаўшыся з ёю. Гурткі фізкультуры на вёсцы мала прыстасованы да ўмоў беларускай вёскі, няма кіраўніцтва, якое павінна было-б праводзіцца на беларускай мове. Мала ўцягнены комсамольскі актыў у фізкультуру.

### Якія-ж нашы заданьні?

Заданьняў многа. Яшчэ больш узмацніць уплыў і удзел комсамолу ў працы фізкультуры. Абеларусіць фізкультуру, прыстасаваць яе да вясковых умоў Беларусі. Уцягнуць комсамольскі актыў у фізкультуру. Узяцца праз правядзеньне акруговых і ўсебеларускіх курсаў, праз фізкультурнае выхаваньне лепшых фізкультурнікаў-комсамольцаў за падрыхтоўку з асяродзьдзя комсамолу кіраўнікоў фізкультуры.

На беларускіх фізкультурнікаў яшчэ ўскладаецца досыць вялікая задача дапамогі Чырвонаму Спортыўнаму Інтэрнацыяналу і польскім чырвоным спортыўна-гімнастычным організацыям. І ў гэтай справе, як і ва ўсякай другой працы па фізкультуры, комсамол павінен быць кіраўніком, а комсамольцы перадавымі.

**Л. Цэйтлін.**

# З гісторыі ЛКСМБ*).

## Артыкул аднаго з старэйшых комсамольцаў Беларусі.

### 15 сьнежня—дзень заснаваньня Беларускага КСМ.

Сёньня рэволюцыйная моладзь Беларусі, а разам з ёю і працоўная кляса нашай рэспублікі, сьвяткуе сёмую гадавіну свайго Комуністычнага Саюзу Моладзі.

Чаму іменна 15 сьнежня 1918 году лічыцца днём заснаваньня Комсамолу Беларусі?

Як у старажытнай Грэцыі сем гарадоў спрачаліся за пашану быць радзімаю найвялікшага філёзофа ў тыя часы, так некалькі дат могуць патрабаваць прызнаньня за імі гэтага гістарычнага дня нараджэньня Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

Якія гэта даты?

Папершае, дзень першага сходу Менскай організацыі саюзу—15 сьнежня.

Падругое, дзень адчыненьня 1-га Краёвага Зьезду Саюзаў Заходняй Краіны ў Смаленску—20 сьнежня.

Патрэцяе, дзень абвяшчэньня Краёвага Комітэту Саюзу — Цэкамолам Беларусі на рубяжы 1918 і 1919 гадоў (дакладна ня памятую, калі адбывалася гэта гістарычнае пасяджэньне, але не пазьней 8 студзеня 1919 г.).

Як бачыце, тры здарэньні, якія адбываліся хутка адно за другім, маюць права на гістарычную дату заснаваньня Саюзу на Беларусі.

Гэтая спрэчка канчаткова была вырашана ў 1922 годзе, калі Цэнтральны Комітэт Саюзу ўхваліў 15-га сьнежня лічыць днём заснаваньня Менскага Саюзу і днём заснаваньня ЛКСМБ.

З формальна-гістарычнага пункту погляду з гэтаю пастановаю можна спрачацца, але па сутнасьці Менская організацыя зьяўляецца родапачаткам беларускага комсамольскага руху. Невялічкія гістарычныя справкі падтрымаюць гэты вывад.

Яшчэ на першым Усерасійскім Зьезьдзе Саюзу дэлегаты ад Заходняй Краіны на сваім прыватным пасяджэньні зрабілі пастанову аб скліканьні Заходня-Краёвага Зьезду ў Смаленску.

У Заходнюю Комуну ўваходзілі тады Смаленская, Віцебская і Магілеўская губэрні.

*) Гэты артыкул пісаны яшчэ да чацьвертай гадавіны ЛКСМБ.




У лістападзе м-цы ў СССР прыехала дэлегацыя ад чэхасл вацкай моладзі. На нашым малюнку—члены бюро ЦК ЛСМБ раз м з дэлегацыяй на ст Менску.

Беларусь тады была занята немцамі, але мы разьлічвалі на хуткае яе вызваленьне. Лістападаўская рэволюцыя ў Нямеччыне зьдзейсьніла нашы прадбачаньні. Немцы пад націскам Чырвонай арміі пачалі адступаць на захад, і пядзь за пядзьдзю стала адраджацца Савецкая Беларусь.

Краёвы Комітэт партыі ў пачатку адступленьня немцаў назначыў скліканьне VI партыйнай краёвай конфэрэнцыі ў Смаленску ў сьнежні месяцы.

Гэта конфэрэнцыя павінна была вырашыць пытаньне аб утварэньні Беларускай Рэспублікі і аб цэнтры Заходняга Краю.

Адначасна з партыйнай конфэрэнцыяй часовы Комітэт Саюзу, які быў утвораны Смаленскай організацыяй у складзе т.т. Флокса, Прокшыца і таго, хто піша гэтыя радкі, назначыў на 20-ае сьнежня Першы Зьезд Саюзаў Заходняй Комуны.

Калі мы назначылі скліканьне зьезду, мы мелі весткі аб організацыі Саюзаў у Віцебскай, Смаленскай і часткова Магілеўскай губэрнях.

На тэрыторыі будучай-жа Беларусі організацыі моладзі пачалі ўзьнікаць толькі пасьля выхаду немцаў.

Склікаць зьезд было нялёгка. Прыходзілася зьвяртацца да розных умудрэньняў, каб яго організаваць. Некаторыя дробныя моманты помню і цяпер.

Прыбягае т. Прокшыц, сакратар часовага „Окомолу“.

Ня прымаюць тэлеграмы аб скліканьні Зьезду.

Потым парашылі пасласць яе праз начальніка штаба Рэвваенсавету. Такое наша „выкрыцьцё“ ўдалося, і тэлеграма была разаслана па патрэбных адрасох.

У Політ'аддзел Рэвваенсавету політпрацаўнікі прысылаліся амаль-што вагонамі. Флокс і я, а мы тады вялі кіраўнічую працу ў Політ'аддзеле, як лепш ня трэба выкарыстоўвалі гэтых працаўнікоў для саюзнай работы. Так, мы накіравалі ў Менск т. Зісьмана, які прыняў гарачы ўдзел у ўтварэньні Менскай організацыі.

На зьезд мы запрасілі прадстаўнікоў ад ЦК РКСМ і т. Юзафовіча (апошняга для дакладу аб міжнародным юнацкім руху).

Прыехаў толькі адзін т. Цэйтлін Яфім, першы старшыня ЦК.

Гэты першы наш зьезд адчыніўся ў час спрыяючых політычных абставін, у той час, калі мы атрымоўвалі посьпехі на Захадзе і на Усходзе, калі нямецкая рэволюцыя дазваляла чакаць нечага радаснага для нас.

Настрой ува ўсіх дэлегатаў зьезду быў баявы, рашучасьць актыўна змагацца за савецкую ўладу адчувалася ў словах кожнага выступаючага дэлегата.

Па дакладу тав. Мясьнікова аб політычным моманце была аднагалосна прынята рэзолюцыя, у якой было характэрнае для настрою месца: „Рэволюцыйнай Рабоча-Сялянскай моладзі Заходняй Комуны належыць быць у першых шэрагах Соцыялістычнай Чырвонай Арміі і на справе паказаць сваю солідарнасьць з рабочай клясай і Савецкай уладай, аддаючы свае лепшыя сілы вялікай барацьбе за Комунізм“.

Каго прадстаўляў 1-шы зьезд? Усяго было 42 дэлегаты ад 24 саюзных організацый.

Віцебская губ. была прадстаўлена 10-ма організацыямі, Смаленская—7-ю, Магілеўская—5 ма, а Менская, тагочасная Беларусь, усяго толькі 2-ма, Менскаю і Ігуменскаю (Чэрвенскаю).

Такім чынам 1-шы Зьезд Заходняй Комуны ня можа лічыцца Устаноўчым Зьездам Беларускага Комсамолу.

Дакладная вартасьць Зьезду была ў абраньні Краявога Комітэту Саюзу, які менш, як праз месяц, перайменаваўся ў першы Цэнтральны Комітэт КСМБ.

Выбраны для кіраўніцтва саюзнаю працаю ў Заходняй Краіне „Окомол“ не пасьпеў прыступіць да свае працы, як новыя політычныя здарэньні прымусілі яго ператварыцца ў Выканмол Беларусі.

### Менская організацыя КСМ.

Ужо падпольная праца пры немцах вялася не адным рэволюцыянэрам-юнаком і калі 15 сьнежня быў скліканы першы сход рэволюцыйнай моладзі Менску, мы мелі досыць падрыхтаваную глебу для заснаваньня організацыі.

Менская організацыя КСМБ стала асяродкам увагі першага „Цэкамолу“.

Гісторыя Менскай організацыі займе віднейшае месца ў тоўстым томе комсамольскага руху на Беларусі.

Лепшыя традыцыі Менскай організацыі ўспрымаюцца іншымі саюзнымі організацыямі Беларусі, і мы можам адно пажадаць у гэту гадавіну: далейшага росту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі, як аднаго з шчырых і баявых атрадаў Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі.

М. Ахманаў.

# Адрыўкі з поэмы „Комсамол“.

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ.



* * *

Дні былі мяцежнае стыхіі,
Дні былі, але іх грукат змоўк...
Гартавалі буры агнявыя
Нашы сілы маладыя;
Гартавалі Комсамол.

* * *

Барацьба змагла прымусіць,
Нібы ўсход сонечнай вясны,
Палюбіць
Руіны Беларусі,—
Руіны —
Спадкі старыны.

* * *

І па цаглінцы... так з году ў го[illegible]
[illegible]
І па[illegible]
Стала радасн[illegible]
І зноў загулі на заводах машыны...
Новае ёсьць — ня стала руінаў.
І ў гэтай працы дні і ночы —
Комсамол — чорнарабочы.

* * *

Калісьці знал: сутарэньне,
Мазоль крывавы на руцэ;
Гарадавога, пана, цемень
І кастлявы ГВС.
А цяпер жыцьцё ня зломяць!
Хай гудзе вірлівы вецер...
— Комсамол — у фабзаўкоме!
— Комсамол — у сельсавеце!

* * *

Дні ішлі... нас многа стала...
Нас наша вольнасьць аб'яднала!
Дні ішлі...
І.. чуем кліч —
Кліч комсамола,
Фабрыкам і сёлам —
На рабфак!
Моладзь!

* * *

Песьні. Песьні. Песьні...
Калёна за калёнай
Дзеці працы
Дружна йдуць!
7-ае верасьня—
Сьвята мільёнаў —
Мільёнаў юнацкіх
душ!..

* * *

Комсамольцы—люд вясёлы!
Смутак—вораг злосны наш!
Праца—радасьць Комсамола —
Неўгамонны левы марш.
І стазвонам неўгамонна
Пяём з задорам маладым.
Серп і молат — наша школа
Ў барацьбе за КІМ.

* * *

Мяцеліца сьцелецца сьнежнай далінай,
Зямля—серабрысты паркаль...
Трывожна гудуць правады бязупынна;
Ветры разносяць жаль.
Мяцеліца сьцелецца бурай усьпененай,
Злосьцю заўзятай мігае ў вачох.
Таварышы! Утрата!..
Ня стала Леніна!
Леніна —
Ільліча.

* * *

На крамлёўскай званіцы-вежы
Гадзіньнік чатыры прабіў...
Над магілай пажоўкла-сьвежай
Свой сьцяг комсамол пахіліў...

* * *

Суму ня трэба! Ня трэба жалю!..
А сэрца балюча шчыміць...
Дарагога свайго Ільліча пахавалі;
Ленін мільённы — будзе жыць!

* * *

Беласьнежным праменьнем
Ліжа каменьні
Мароз, рассыпаючы сьнег белай жменяй.
Сэрца ня змоўкла... Не зьледзянела;
Вуліцай белай
Плача нясьмела.
Іскрамі смутку плача маўкліва
Сэрца юнацкае, сэрца вірлівае.
Сьнег засьцілае бельлю каменьні...
Гэй, комсамольцы,
шчыльней
свае звеньні!

# ВЁСКА Ў ПЕСЬНЯ

* * *

На гары стаіць манах,
Паглядае коса.
А ў яго аж па штанах
Пацякло із носа.



Відаць, холадна яму,
Ды жыцьцё няміла.
З гора валасы ірве
Ды кладзе ў кадзіла.

Загарэлісь, засквірчэлі
У кадзіле валасы.
З вокан клюбу паляцелі
Песьні новай галасы.

Сёньня моладзь ўся там наша
І з „сівымі“ нават ёсьць.
Канцавая бабка Паша—
Комсамольцаў добры госьць.

З малых год яна спазнала
Ўсю царкоўную мапу.
Век папа баба ня знала,
Не хадзіла к шаптуну.



Пашка ўжо зусім старая,
Ходзіць з кіем альховым.
Але ў працы памагае
Комсамольцам вясковым.

Вось таму бабульку гэту
Моладзь любіць ды шчэ як!
Яна можа і ў газэту
Жмут заметачак пасдаць.

А у клюбе сёньня радасьць,
Песьні, рогат, дзетвара.
І вялікую там сьвятасьць
Бачыць можна са двара.

Елкі, зелень, сьвет чырвоны,
Ленін ў рамках, як жывы...
Сёньня нашыя калёны
Лічаць пройдзены гады.



Сем гадоў—вялікі час,
А прабег як хутка ён!
Ад сялян вітаў ды нас
Селянін—бядняк Лявон.

**Дзявочыя.**

Цяпер дзеўка я на „яць“—
З кніжкамі важдаюся,
Бо люблю я іх чытаць
І ў іх разьбіраюся.



Ды ці-эк можна жыць бяз
кніжкі,
Бяз крыніцы гэтай вед.
Цемната нам непатрэбн...
Ў якой жыў стары м...

А малітваў я ня зна...,
Бо ня трэба яны мне.
„Малады“ лепш пачытаю
Пры іскрывым каміне.

Калі любіш, дык прызнайся,
Мой ты міленькі Якім!
І скажы, ці запісаўся
Ды ў ячэйку „Авіяхім“.

Маці ў цэркаў, дачка ў клюб
З комсамолкай Ганяй.
Каму лепш было і дзе—
Здагадайцесь самі.

**Хлапецкія.**

Сьмельчаком я нарадзіўся,
Малы по лесу хадзіў,
А на неба каб узьбіўся—
Ўсіх сьвятых-бы палавіў.



Ой, на лыжах я катаўся,
Бо люблю я гэты спорт,
Ў піонэры запісаўся—
Поп надуўся, як той чорт.

Шоў я лесам, тарапіўся,
Аж агонь з-пад ног ляцеў.
На буржуяў расьсярдзіўся—
Падавіць усіх хацеў.

Заіграй, мая гармоньня,
Ад сталіцы да сяла,
Расскажы хоць крыху сёньня
Нам пра радыё-дзяла.

Мне ня трэба „мармеладу“
І цукеркаў не хачу.

**...родныя.**




Эх, яблычак
З гары коціцца.
А у польскіх паноў
Безрабоціца.

**Сьцешын.**

**Сялян...**

На узгорку ста...
Пад гарой ка...
Я хадзіла ўчо...
Слухала навін...

А ты, Янка, б...
Самагонку г...
Лепей часта ў...
Ды чытай газ...

Паглядзі вось, ...
Ў вёсцы Мілюх...
Будуць радыё ...
Ды концэрты ...

Нават нам хоч...
Нейкую машын...
Што агонь буд...
Бяз смуроду ...

**Гомза ...**



У гародзе на г...
Тры калівы м...
Пусьці, мамк...
Комсамольскай ...

У гародзе на г...
Тры калівы боб...
Я ў цэркву не ...
Бо ня веру ў б...

У гародзе на ...
Убіты тры кол...
Пусьці, мамка ...
Мне ды ў комс...

**Я. ...**

# ...Х І ЧАСТУШКАХ.

...скія.
...ць дуб,
...клюб,
... ня пі
...люб хадзі
...у.
...нто чуваць:
...ць
...ауляць
...рухаць.
...ць прыслаць
...
...пушчаць
...ыму.
...вірысон.

...здзе
...ы.
...аглядзець
...аты!
...здзе
...у.
...ашла,
...га.
...здзе
...пісацца
...молкі.
...Федарака.



## Гэй, паехаў сын Даніла...

Ґэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.
Сына маці выпраўляла,
Паясочак дала,
Каб заўсёды матку помніў,
Як паедзе з сяла...
А дзяўчына, міла сэрцу,
Правяла за сяло
І дала на памяць персьцень,
Каб у бітвах вязло.
Так паехаў сын Даніла
Сам сабой на вайну,
А... ся на хаціну
Ды змахнуў сьлязіну.
Е... оле і другое,
Трэцьце поле дасьціг,
Дзе сабраліся салдаты
З сёл і вёсак усіх.
І пашлі яны паходам,
Дружна, сьмела пашлі,
Каб вон злыбеду прагнаці
З беларускай зямлі.
Добра ўсе там ваявалі,
Уміралі ў баю,
А найлепш Даніла біўся
За айчыну сваю.
Хто йшоў ззаду, а хто збоку,
Азіраўся назад,
А Даніла ўсюды ўперад
Выступаці быў рад.
І ручыла, шанцавала
Ў бітвах цяжкіх яму,
Ажно вораг напужаны
Дзіваваўся таму.
Год мінуў, як ваяваці
Шоў Даніла з сяла,



А ўжо слава па ўсім сьвеце
Аб ім громка ішла.
Як ачысьцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі да дому,
Як тых пчолаў буйны рой.
А наперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны,
Шабля бліск...
Конь ...
Ён вязе ўсім падарункі:
Маці срэбны кутас,
А сваёй дзяўчыне мілай
Доўгі пацерак зьвяз.

**Я. Купала.**

## Я—хлапец малады.

Я—хлапец малады,
Я—дзяцюк хоць куды,
І бяз меры я дуж,
Зваць мяне беларус.

Эх, як стане ў рад
Малайцоў гэтых шмат,
Усе вольны яны—
Беларусі сыны.

Дык як стануць-пайдуць,
Дзе стогн, крыўда жывуць,
Кажы сьмела тады:
Больш ня будзе б...

Гэй, юнацк...
І ўдзень і ў...
На старожк...ь,
Каб ісьці, д... чуць.

Хай з юнацкіх грудзей
Па зямельцы усей
...ь імчыць, як страла,
...русі хвала...



# ТВОРЧАСЬЦЬ НАШЫХ ПОЭТАЎ.

## Наша сьвята.

Наша сьвята, сьвята працы,
Сьвята новых сьветлых дзён!
Хто-ж усе тут?—дзеці волі,
Што старому шлюць праклён!

Ну ды што-ж! Зьвініце песьняй,
Стройце карагод!
Хоць на сьвеце й непагода,
Комсамол—бунтарскі род!

То ня наша адных сьвята—
Брат ‘шчэ за мяжой.
Ён за кратамі марнее —
З намі-ж ён душой!

Верым моцна, час настане—
Ўзломяць хвалі лёд!
І між крыгаў—пена віру
Ўбача струмень гордых вод!

Дык ня плач тугою, восень,
Разьвей, вецер, туманы,
Сонца, радасьцю ўсьміхніся,
Правім сьвята сёньня МЫ!

Наша сьвята, сьвята волі,
Сьвята новых сьветлых дзён!
Мы ўсе дзеці лепшай долі
Шлем мінуламу праклён!

**Паўлоўскі.**

## У Дзянісавай Агаты...

У Дзянісавай Агаты
Што-нядзелю ў хаце сваты.
Ўсё гандлюцца з бацькамі,
Каб пасаг багаты далі—
Для дачкі.

Ну, а бацька „наравісты“—
Не падходзь да яго блізка.
На сваю Марылю-жонку
Ён бурчыць, як-бы з прасонку:
„Ты маўчы!“

Зьмерыць кожнага вачыма,
Слова лішняга ня кіне,
З толку возьме саб‘е свата,
Маладому штось „падвяжа“.
Дык затым...

Малады на вуха свату
Скажа: „едзем, брат, да хаты“.
[illegible] хоць і гожа—
[illegible]а усё дома.
Ня прычым!

А пасьля па цэлай вёсцы
Язычкамі ўсе расхвошчуць:
Што на дзеўку хто ні гляне—
Кожны ёй дае загану
Бяз віны.

На Агату сыплюць плёткі,
Як-бы сьмецьце, усе цёткі,
А праз гэта вось Агата
Ні адзін разочак плача...
А сваты

Ня мінаюць яе хаты—
Цягне ўзяць пасаг багаты:
Куфар добры ды карову—
Мараць вось аб чым галовы
Маладых.

На пасаг той хто імкнецца—
Сам жыць добра спадзяецца
І твая, Агатка, доля,
Расплывецца ў моры гора.
Дык затым...

Праганяй з сваёй ты хаты
Гэтых ворагаў праклятых
Сёньня ў вольнай ты краіне,
Сама сабе гаспадыня.
І вось ты

Дзён старых раскідай путы
Ты, якімі яшчэ скута!
Хай табою не гандлююць
Татка з маткай. Ці ты чуеш?
Лепш жыві!

**Янка Бор.**

## Маё любае...

Хто мяне раздольлем волі
Паланіць умее?—
Гэта вецер, што у полі
Куды хоча вее.

Хто ўспамінак робіць з ласкай
Пра красу жывую?—
Гэта дрэвы, траўка, краскі
Ў пору веснавую.

Хто пяяць-іграць ўсё можа
Так, каб быў я п‘яны?—
Гэта лес у май прыгожы,
Зелянінэй ўбраны.

**Янка Гаротны.**



# Ленін, комсамол і сялянская моладзь.

Комсамол—організацыя па складу працоўна-сялянская, але па свайму духу організацыя пролетарская—комуністычная.

Працоўная моладзь у комсамоле, як больш організаваная, больш згуртаваная на фабрыках і заводах па праву кіраўніцтва організацыяй моладзі, дзержыць у сваіх руках і кірue ёю дзеля выхаваньня ў комуністычным духу. Сапраўды, „перад моладзьдзю цяпер стаіць задача ўтварэньня комуністычнага вобчаства“,—гаварыў У. І. Ленін. Дзеля гэтага, каб будаваць комуністычнае вобчаства і наогул будаваць комунізм, моладзь павінна вучыцца, павінна організоўвацца, каб колектыўна сябе выхаваць. Працоўная моладзь не магла забыць пра моладзь вёскі—больш цёмную, больш загнаную царскім урадам і колькасьцю ў шмат разоў большую, чымсь моладзь фабрык і заводаў. Але і правадыр працоўных У. І. Ленін, які аддаў вельмі шмат увагі комсамолу, у сваёй прамове на 3-м зьезьдзе комсамолу, між іншым, сказаў, што „Без уцягненьня ўсяе масы працоўнай і сялянскай моладзі да гэтага будаўніцтва комунізму вы комуністычнага вобчаства ня збудуеце“.

Як толькі комсамол узмацаваўся, як толькі ён захапіў у свае шэрагі большую частку працоўнай моладзі, саюз на сваім 6-м зьезьдзе сказаў: „асноўная задача Цэнтральнага Комітэту перш за ўсё—гэта організацыя комсамольскага выхаду ў вёску на заваёву батрацкіх, бяднейшых і лепшых серадняцкіх слаёў сялянскай моладзі“.

Аб чым гэта сьведчыць?

Гэта нам сьведчыць аб тым, што мы павінны выканаць заданьні У. І. Леніна, трэба аб'яднаць у шэрагах комсамолу і сялянскую моладзь.

Трэба ўцягнуць батракоў, беднякоў і лепшую частку серадняцкай сялянскай моладзі ў будаўніцтва комуністычнага вобчаства.

Ці патрэбен вясковай моладзі комсамол?

Бязумоўна трэба, гэта паказаў нам вялікі ўзрост комсамолу з ліку моладзі вёскі за апошні год.

Неабходнасьць комсамольскай організацыі ў вёсцы падкрэсьліваецца вялікай актыўнасьцю сялянскай моладзі.

Моладзь вёскі імкнецца ў комсамол і ўпарта патрабуе ўтварэньня ўсё новых і новых ячэек комсамолу ў самых далёкіх і цёмных куткох Беларусі.

Комсамол вёскі з кожным годам, з кожным месяцам, з кожным тыднем заваёўвае ўсё большы і большы аўторытэт як сярод моладзі, так і сярод старых сялян.

Комсамол за кароткі тэрмін працы ў вёсцы мае ўжо вялікую колькасьць комсамольцаў—грамадзкіх дзеячоў з гушчаў сялянскай і батрацкай моладзі.

„Задача саюзу моладзі—паставіць сваю практычную дзейнасьць так, каб вучачыся, організоўваючыся, яднаючыся і змагаючыся, гэта моладзь выхоўвала-б сябе і ўсіх тых, хто ў ёй бачыць правадыра, каб яна выхоўвала комуністых“,—казаў Ільліч на гэтым жа 3-м зьезьдзе комсамолу. Гэта яшчэ раз гаворыць аб тым, што ня толькі па кніжцы трэба вучыцца будаваць комуну, а і на практычнай працы.

Добрая апрацоўка агароду, прыклад у лепшых формах зямлякарыстаньня, дапамога селяніну добраю радаю, ліквідаваньне няпісьменнасьці, добрая праца ў сельсавеце, у комітэце ўзаемадапамогі і коопэрацыі зьяўляецца лепшаю вучобаю комсамольца. Ня толькі самім вучыцца, а вучыць і другіх даручыў комсамолу наш правадыр Ленін.

Каб ажыцьцявіць гэта, комсамол у цалку і ячэйка на вёсцы ў прыватнасьці не павінны замыкацца, аісьці да ўсяе сялянскае моладзі, кіраваць яе актыўнасьцю, прыцягнуць і не-комсамольцаў да будаўніцтва комунізму, г. зн. уцягнуць усю моладзь у вучобу і ў практычную працу: у сельсавеце, у камітэце ўзаемадапамогі і г. д. Вельмі часта комсамольцы на вёсцы становяца „маладымі дзядамі“, заўсёды сядзяць за кніжкаю, баяцца выйсьці да беспартыйнай моладзі, баяцца, пагуляць. Гэта няправільна. Моладзь, калі ўбачыць комсамольца, заўсёды ў такім становішчы пужаецца і баіцца ісьці ў комсамол, гаворачы: „уступіш у комсамол, так трэба будзе сядзець увесь час за кніжкаю, а мы хочам жыць, хочам пагуляць“.

Дзяўчаты мала йдуць у комсамол затым, што ім у комсамоле нудна. Гэта трэба зьмяніць. Трэба, каб комсамолец, умеючы вучыцца, умеючы працаваць, умеў-бы і пагуляць. Здаровае вясельле патрэбна, але бяз выпіўкі, бяз жульніцтва, без абражэньня дзяўчыны. Яшчэ адзін момант у працы комсамолу на вёсцы, які мае цяпер вялікае значэньне,—гэта праца сярод батракоў.

Батрак зьяўляецца найбольш пролетарскім элемэнтам на вёсцы. Трэба паставіць працу так, каб батраку ў комсамоле было цікава, каб ён мог там ліквідаваць сваю няпісьменнасьць.

Верамейчык.

# ПА ЯЧЭЙКАХ ЛКСМБ.

## Сьвержанскія комсамольцы.

### Мястэчка.

Ціха, паважна, часамі шумна і весела, нават бурна праходзіць праца ў комсамольцаў мястэчка Сьвержань, Рагачэўскага раёну, Бабруйскай акругі. Маюць яны свой клюб, які стаіць у самым цэнтры мястэчка, сярод Ленінскага пляцу, дзе акрамя яго стаіць некалькі адна да другой прытуленых крамак, у якіх гандлююць яшчэ ня згубіўшыя сваю моц гандляры-перакупшчыкі. Побач з імі на рагу пляцу з Савецкай вуліцай заве да сябе сваей шыльдай і прыгожымі плякатамі Сьвержанскі коопэратыў. Гэта рынак. А вакол яго стаяць і дзівуюцца на ўсё, што робіцца тут, хаты яўрэяў-кустароў. Гэта і ёсьць самае мястэчка, і ад яго ва ўсе бакі пашлі вуліцы і вулічкі. Адна з іх самая даўжэйшая, Дняпроўская, зашла аж ледзь не да Дняпра, і на ёй жывуць выключна сяляне. Другая папягнулася ў другі бок, аж да лесу, і завецца Савецкаю; на ёй жывуць усялякія людзі: і яўрэі, і сяляне.

### Домік, дзе месьціцца ячэйка.

Вось сярод гэтых вуліц і вулачак і зьвіла сваё гняздо ячэйка комсамолу ў доміку, у якім калісь зьмяшчаўся банк. Першы пакойчык, у якім у сваечасіны зьбіраліся сходы жыхароў мястэчка, цяпер увесь завешаны лёзунгамі і плякатамі куткоў, як: Леніна, МОПР'у, Авіяхіму, бязбожнікаў, сельскагаспадарчага і інш. і сярод якога стаіць вялізарны стол і 8-10 лавак,—азначае сабой залю, але зборную, і ў ёй, як і раней, праводзяцца сходы, але сходы комсамольцаў і заняткі моладзі. Другі пакойчык, крыху меншы за першы, заняты доўгім сталом з лаўкамі побач і тут праводзяцца заняткі гурткоў: па беларускай мове, газэтнага і інш.; тут-жа ладзяцца і пасяджэньні бюро ячэйкі. Завецца ён чытальняй. Трэці пакойчык, зусім маленькі, захоўвае усе дзелавыя паперы ячэйкі і ў ім знаходзіцца ячэйкавая бібліотэка, хоць невялічкая, але комсамольцам, якіх у ячэйцы лічыцца каля 30, чытаць хапае чаго; акрамя таго, гэтай бібліотэкай карыстаецца і беспартыйная моладзь.



Моладзь вучыцца карыснай працы.

### Ячэйка за тры гады.

Зарадзіўся гэты комсамольскі асяродак, у якім пераварваецца на новы лад рабоча-сялянская моладзь, тры гады таму назад. Багата моладзі перабыло ў ячэйцы з таго часу. Адны запісваліся і выпісваліся па тых ці другіх прычынах, другіх

перакінулі на працу куды-небудзь далей, трэція перашлі ў комуністычную партыю, чацьвертыя сядзелі на мёртвай кропцы і самі па сабе памаленьку адпадалі ад ячэйкі, а маладняк усё рос і рос, пакуль вырас у ячэйку Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

### Ячэйка сёньня.

І вось цяпер кожны комсамолец узяўся за навуку, каб стаць сапраўдным комсамольцам. За прыкладам далёка хадзіць ня трэба. Заходзь проста ў комсамольскую чытальню ў які сабе хочаш вечар, і ты ўбачыш такі малюнак. За сталом цесным колам сядзяць комсамольцы. Ідуць заняткі ў тым ці іншым гуртку. Ідуць заняткі па беларускай мове—чытаюць казку альбо іншы вясёлы артыкул з „Роднага слова“. Усе сьмяюцца, бо лёгка чытаецца і ўсё зразумела. Пераказваюць, хто як можа, чаргой, каб адзін, які шустрэйшы, не практыкаваўся адзін, а хапала-б на ўсіх. Крыху тужэй ідзе праца, калі чытаюць які навуковы артыкул. Тут ужо на ўспамогу прыходзіць для растлумачэньня невядомых слоў кіраўнік гуртка, слухач Белпэдтэхнікуму, і мала ахвотнікаў знаходзіцца, каб пераказаць гэты артыкул. Але ўсе гэтыя недахваты паступова згладжваюцца, і комсамолец, з дастойнай яму энэргіяй, вучыцца чытаць на беларускай мове. Ня меней цікава праходзіць праца і ў газэтным гуртку. Адзін ці два комсамольцы робяць даклад аб міжнародным становішчы за тыдзень, а ўсе іншыя ўжо прыгатавалі цэлыя кучы пытаньняў, якімі мысьляць закідаць дакладчыкаў па сканчэньні дакладаў.

Усе гэтыя пытаньні ім самым добра вядомы, усе яны ўзяты з газэт і шчыльна перагледжаны, але гэта не здавальняе іх; кожны хоча, каб яго пытаньне было разабрана ўсім гуртком, каб не асталося нічога таго, што здарылася ў якой-небудзь старонцы за гэты тыдзень неразабраным і ня прынятым к асьведамленьню. Так знаёмяцца з жыцьцём у другіх старонках. Але бываюць агульныя сходы комсамольцаў і беспартыйнай моладзі, на якіх разьбіраюцца пытаньні і аб становішчы нашага Саюзу, альбо нашае Рэспублікі, як, напрыклад, „Аб рэволюцыйнай законнасьці“, „Аб паляпшэньні сельскай гаспадаркі“, „Аб надзяленьні яўрэяў зямлёй“ і інш. набалеўшыя пытаньні, зачэпліваючыя інтарэсы рабочых і сялян. Бывае і так, што той ці іншы дакладчык няправільна разумее сам тое ці другое пытаньне, і тады на ўспамогу яму выступае комуністы, альбо комуністка, выхаваныя ў гэтай ячэйцы комсамолу, і пытаньне стане зразумелым. Толькі дакладчык крыху пачырванее, што ня знаў гэтага сам, але з усіх сьцен на яго добрымі вачыма пазіраюць правадыры, якбы кажучы: „Нічога, навучыцеся. І мы калісь такімі былі!“

### На бюро ячэйкі.

На пасяджэньнях бюро ячэйкі разьбіраюцца пытаньні аб бягучай працы ячэйкі, выкладаецца на паперу яе далейшы плян, робяцца індывідуальныя справаздачы комсамольцаў, дзе ім даюць політычныя і моральныя навучаньні. Тут-жа разьбіраюцца і заявы моладзі, жадаючай уступіць у шэрагі комсамолу, а потым пад канец агульна выносяць пастанову, як судзьдзя прыгавор, і гэты „прыгавор“ будзе зачытвацца на бліжэйшым саюзным дні, які ўжо выносіць канчатковы вынік,—ці прыняць гэтага таварыша альбо таварышку ў комсамол, ці не. Саюзны-ж дзень у сьвержанскіх комсамольцаў бывае праз кожныя два тыдні, і ў такі дзень усе лавы ў залі клюбу бываюць перапоўнены як комсамольцамі, так і беспартыйнай рабоча-сялянскай моладзьдзю. Нават сялянскія дзяўчыны і тыя ў дастатковым ліку наведваюць комсамольскі клюб.

### Ячэйка і дзяўчаты.

Зусім малы лік сялянскіх дзяўчын у комсамоле, і гэта зьяўляецца галоўным недахватам ячэйкі. Ячэйка ўсё ніяк не наладзіць працу сярод дзяўчат. То яна для працы сярод дзяўчат абярэ ня выконваючых свае абавязкі комсамолак; то не сабраць сход жанчын; то яго зьбяруць, але для правядзеньня знаходзяцца перашкоды: хлопцы зьбяруцца пад вокнамі, стукаюць у дзьверы, галасна сьпяваюць так, што хоць вушы затыкай, і шмат розных перашкод існуе яшчэ на гэтым шляху. Галоўнай перашкодай зьяўляюцца некаторыя сялянскія хлапцы.

Некаторыя з іх і комсамольцамі раней былі, але выпісаліся ды цяпер другіх адцягваюць ад комсамолу.

### Нашая зьмена.

Вось сярод піонэраў праца ідзе добра і нельга было-б нічога дрэннага сказаць пра іх, калі-б комсамол як можна больш увагі зварочваў на іх ідэёвае выхаваньне. Але нічога: зьмену сабе каля пяці дзесяткаў чырвоных гальштукаў комсамол мае, ды яшчэ столькі-ж акцябрат у прыдачу.

### Праца комсамолу па-за межамі ячэйкі.

Цяпер, калі ня цяжка, зьвернемся да коопэратыву, сельсавету і комітэту ўзаемадапамогі. Куды ні зьвярніся—усюды ёсьць комсамольцы. У коопэратыве, як прадстаўнікі, у комітэце ўзаемадапамогі—гэтак сама, у сельсавеце і як прадстаўнікі і яшчэ сябры культсэкцыі. Хоць мала, але праводзяць заняткі сярод сялян, загадваюць хатай-чытальняй, чытаюць сялянам літаратуру і інш.

### Унутрыячэйкавая праца.

Вось такім парадкам праходзіць у сьвержанскіх комсамольцаў праца. Бываюць жа ў іх і такія часіны, калі надыйдзе якое-небудзь рэволюцыйнае сьвята. З якім запалам, з якой энэргіяй праводзяць яны гэтае сьвята! Усюды пакажуць яны сваю моц: і на мітынгу, і на дэмонстрацыі, і на спэктаклі. Усюды відаць іхны прыгожы чырвоны сьцяг, падарунак былага валвыканкому ў дзень першага юбілею. Але гэта яшчэ ня ўсё. Бываюць у іх яшчэ і сьвятлейшыя гадзіны, як, напрыклад, вечары самадзейнасьці. Праводзяцца яны на розныя лады. Бывае так, што ходзяць у якую-небудзь другую вёску і там дзе-небудзь на палянцы сярод лесу сабіраецца моладзь, і пачынаецца вечар. Чытаюць даклады, вусную газэту, ладзяць вечары пытаньняў і адказаў і шмат чаго іншага. А потым ужо заводзяць гульні, песьні і на гэтым канчаюць вечар. Але такія вечары бываюць вельмі рэдка. Часьцей-жа праводзяцца яны ў сваёй ячэйцы.

Сёньня ў Сьвержані комсамол рыхтуецца правесьці ўжо свой трохгадовы юбілей, гатуецца агледзець свой пройдзены шлях, шлях культурнай і творчай працы, шлях барацьбы за новую, сьветлую будучыну.

**Рыгор Лынькоў.**

# ЖЫЦЬЦЁ МОЛАДЗІ.

## Наша моладзь пачынае жыць пановаму.

*(Блускі сельсавет, Пухавіцкі р.).*

Быў час, калі моладзь Блускага сельсавету акрамя п'янства ды боек нічога больш і ведаць не хацела. Вечарынкі



з п'янымі скокамі—былі адзіным сродкам „культурнага жыцьця ўсяе вёскі". Так было ў нас (хоць як гэта ня сьмешна) аж да 1922 году.

Пасьля гэтага часу частка больш сьвядомай моладзі ўбачыла ў сваім жыцьці шмат гнілога і нікому непатрэбнага. Распачаўся пэрыод цяжкай працы, які даў добрыя вынікі.

Цяпер большая частка нашай моладзі вельмі зацікаўлена газэтамі і журналамі. Падпісчыкі на іх „растуць, як грыбы". У сельсавеце маюцца дзьве



комсамольскія ячэйкі, у якія ўцягнута вясковая моладзь. Існуе шэсьць хатчыталень, пры якіх організаваны наступныя гурткі: сельска-гаспадарчы, політычны, драматычны.

Драматычныя часта наладжваюць спэктаклі, якімі цікавіцца ўся моладзь і старыя сяляне.

Наогул кажучы, наша моладзь навучылася цаніць дзянькі свайго жыцьця.

**А. Сьцежка.**

## Наша праца на 7-м годзе.

*(Ячэйка ЛКСМБ саўхозу „Молат", Меншчына).*

У 1923 годзе 19 студзеня настаўнік Васкабовіч організаваў нашу ячэйку з 7 сяброў.

Маладая ячэйка блудзіла ўпацёмку з сваёй працай.

І вось, як наша ячэйка пражыла адзін год, яна ўжо шмат вырасла і ўзышла на роўную дарогу свае працы.

У 1924 годзе мы ўжо сумелі ўтварыць ячэйку комсамолу ў Падзягцярні, якая цяпер налічвае 11 комсамольцаў.

Наша ячэйка ўзялася ізноў за працу, стала праводзіць сходы вясковай моладзі, організавала ў кожнай вёсцы культ.-асьветныя гурткі, драматычныя і г. д.

Моладзь асьмелілася, пазнаёмілася з комсамольцамі і пачала пашыраць шэрагі нашай ячэйкі.

Цяпер у нас лічацца 22 комсамольцы, з якіх 4 дзяўчыны.

З кожным днём мы атрымоўваем заявы вясковых хлапцоў аб паступленьні ў комсамол.

Пачала ўжо „наклёўвацца" 3-я ячэйка—гэта ў вёсцы Бабы. Там лічыцца ўжо зацьверджаных райкамолам 6 хлапцоў.

Відаць, што імкненьне ў комсамол моладзі ёсьць.

Бацькі процiў нічога ня маюць, калі сын ці дачка запісваецца ў комсамол.

Гэта ўжо відаць, што комсамол зацікавіў і старых.

**Рыгор Жлобіч.**

## Амаль кожнаму свой абавязак.

*Матарова, Сьмілавіцкі р.*

Наша ячэйка ЛКСМБ мае ў сваім складзе 18 чалавек, з каторых ёсьць тры дзяўчыны. За кароткі тэрмін свайго існаваньня організацыя заваявала аўторытэт сярод сялянства. Аб гэтым гаворыць той факт, што нашы комсамольцы ўвашлі ў склад усіх грамадзянскіх організацый вёскі. Так, нашы сябры маюцца ў коопэратыве, комітэце ўзаемадапамогі, пажарнай дружыне і сельсавеце. Сялянства ў такія моманты, як перавыбары сельсавету, коопэратыву і г. д., прыслухоўваецца да голасу комсамольцаў і неадступна йдзе за імі.

Астатнія сябры ячэйкі, якія не ўваходзяць у тую ці інш. грамадзянскую організацыю, нагружаны комсамольскай працай і прымаюць удзел у розных гуртках, рэдколегіі яч. МОПР і г. д. Адным словам, кожны мае свой абавязак.

**М. Крайко.**

## Праз групавыя сходкі ячэек наладжваем сувязь з беспартыйнаю моладзьдзю.

*Журавіцкі р., Магілеўская акр.*

Аднаго разу ў вёсцы Сычмане адбывалася групавая сходка Балатнянскай і Доўскай ячэек ЛКСМБ. Тут комсамолак-дзяўчыны зусім мала (а комсамолкі-дзяўчыны, здаецца, няма ніводнае), а таму комсамольцы гэтых ячэек за кароткі тэрмін свайго прабываньня парашылі добра пазнаёміцца з моладзьдзю вёскі і пагутарыць з ёю пра комсамол. Такая праца прашла ўдачна і з посьпехам. Зроблены некаторыя захады па ўцягненьні сычманскіх дзяўчат у комсамол.

**Ф—аў.**

## Добры пачатак.

*Межава, Расанскі р., Полаччына.*

Наша ячэйка пры Зьмітраўскім с. с. організавалася 15 студзеня 1925 г. Спачатку былі толькі 4 комсамольцы. Потым пачала прыходзіць да нас і іншая моладзь. Мы ёй давалі працу, і цяпер у ячэйцы 18 комсамольцаў, з іх 4 дзяўчынкі.

Узімку праца ішла надта добра, а ўлетку дужа аслабла. Цяпер з прыходам новай зімы пастараемся працу палепшыць і свой першы добры пачатак замацаваць у масе сялянскай моладзі.

**ГРЫШКА СЬВЯРДЛОЎ.**

## Зарабілі пашану ад сялян.

*Жораўка, Сьмілавіцкі р., Меншчына*

Комсамольцы нашай вёскі зарабілі вялікую пашану ад усяго сялянства. А зарабілі таму, што яны ўва ўсякай працы—*першымі.*




У гэтым годзе дзякуючы іх стараньню ў нас пастроілі школу, а то каб не яны, дык большая-б частка нашай моладзі ў гэтым годзе, не хадзіла-б у школу.

Сяляне, убачыўшы, што комсамолец—гэта першы і найлепшы працаўнік на вёсцы, сталі пушчаць сваіх дзяцей у комсамол.

Зараз у Жораўках налічваецца 8 комсамольцаў. Хутка ўтворым сваю ячэйку.

**Г.**

---

## Трэба павялічыць тыраж „Мал. Аратага!"

*(М-ка Шацк, Меншчына).*

Беларуская рэспубліка вялікая, а тыраж „М. А." вельмі малы. Ёсьць такія мясцовасьці, дзе „Маладога Аратага" нават у вочы ня бачылі.

Мне здаецца, што „М. А." адна з тых часопісяй, якая можа адказаць на ўсе пытаньні вясковай моладзі, а за тым яна ёй патрэбна.

Трэба выкінуць лёзунг „Ніводнай хаты", дзе ёсьць моладзь, без „М. А."

**Юнкор Казлоўскі.**

# СТАРОНКА МІНУЛАГА.

## Як моладзь ратавала вёску ад бандытаў.

Стары комсамолец Пятрусь—Комсапрацоўнік, любіў рассказваць пра гэройскія дні Беларускага комсамолу і асабліва пра тых комсамольцаў, каго ён знаў, з кім працаваў. І вось сёньня, сабраўшыся ў хаце-чытальні, ён рассказваў хлапцом і сялянам. Тыя ўважна слухалі.

— Было гэта,—пачаў Пятрусь,—яшчэ ў 19 годзе. Тады гэтага нічога ня было: ні клюбу, ні хаты-чытальні... Я не працаваў і жыў дома, у Віцебшчыне. У наша мястэчка прыехаў адзін юнак. Быў ён з гораду. Палюбілі мы яго, а палюбілі за тое, што ён быў разумны і добры. Вясёлы быў ён: сьпяваў прыгожа, іграў на гармоніку, шмат цікавага ведаў, рассказваў. Жыў ён з намі, здаецца, больш за тыдзень. За гэты час мы так здружыліся з ім, што, здаецца, пашлі-б з ім на край сьвету... Часта гаварыў гэты гарадзкі пра комуністычны гурток моладзі.

Мы яго ўтварылі і назвалі комсамольскай ячэйкай. Выбралі сакратара і пачалі працаваць. Гарадзкі пакінуў нам невялічкі плян працы і сам паехаў.

Прачулі бандыты, якіх, як вараньня, было ў нашым лесе „Пушча“. Лісты прысылалі з пагрозамі сьмерцю і дамагаліся, каб мы пакінулі працаваць. А ў нас былі хлопцы ня зломкі і ўжо бачылі будучую карысьць ад ячэйкі і вухам не вялі пра лісты. Толькі, бывала, сакратар ячэйкі пачытае, відаць, мацней застукае яго маладое сэрца, напіша нейкі ліст ды разам з бандыцкім пашле ў горад.

Бандыцкая пагроза ўсё больш і больш вырастала. Хлопцы-комсамольцы даставалі сабе стрэльбы, гранаты, бомбы і вучыліся, каб у выпадку нападу бандытаў можна была спрачацца.

Усё гэта рабілася ў раньнюю восень. Усе нашы комсамольцы, а некаторыя і не-комсамольцы, спалі ў аднэй пуні аднаго селяніна. А вечары (як-бы месяц быў на бандытаў) былі відныя, прыгожыя. Мы гэтым момантам карысталіся і займаліся строем. Як лажыліся спаць—пакідалі двух для варты. Усіх нас было адзінаццаць.

Аднаго разу была цёмная, хмурная ноч. Нас браў нейкі страх. Мы паставілі на варце 4. Сем ляжалі ў пуні на сене... Гаварылі ціха і прыслухоўваліся да ветак бярозы (бяроза расла каля пуні), якія ганяў вецер. Пачуўся крык, а потым стрэл... Я тады быў у пуні. Мы сьціхлі і кожны думаў, што гэта яму здалося.

Потым запыхаўшыся ў пуню ўбеглі два хлапцы. Мы ўсхапіліся.—„Бандыты... вёсцы... б'юць... шукаюць“... разрывіста прагаварылі хлапцы. Мы ўскочылі і... схапілі сваю зброю. Ціха вышлі з пуні... Хуткімі крокамі прышлі з варты і два другіх. Мы ўсе. А па вёсцы шырокімі хвалямі нёсься крык. Па напрамку гэтага крыку крадучыся паўз платы і стрэхі ішлі мы—абаронцы. Ніхто ня ведаў і ня думаў, што нас чакае... Заўважылі два вазы па пары коняй і каля іх чалавек 15. Гэта былі бандыты. Яны грузілі на вазы тое, што другія прыносілі з хат. У нас у кожнага было па дзьве бомбы і па вінтоўцы з некалькімі патронамі,—пры гэтым Пятрусь глыбока ўздыхнуў, а за ім і ўсе,—пяць хлапцоў вышлі ўперад і па камандзе камандзера (а ў нас быў свой камандзер)... кінулі бомбы ў падводы... І там, дзе стаялі вазы, накладзеныя сялянскім багацьцем, зрабілася яма, а ў яме—стогн бандытаў. Мы ўперад... А бандыты ў перапалоху, кінуўшы вёску, беглі. Мы іх праводзілі кулямі... З расьсьветам мы падлічылі ахвяры. Бандытаў было забіта 13, адзін ранен. А недалёка ад іх ляжала нашых пара хлапцоў—Цімох Васілёў і Зьміцер Куртаты. Я і яшчэ некаторыя хлапцы былі лёгка ранены.

К поўдню ў нашу вёску прыехаў атрад міліцыі, і мы былі сьмелы.

А ноччу зусім вымелі з „Пушчы“ бандыцкае сьмецьце.

На гэтым Пятрусь скончыў... Усе былі ў цяжкім задуменьні.

З. Жораўскі.

## З барацьбы за комунізм.

Раньняю раніцаю 7-га жніўня 1919 г. густымі клубкамі падымаўся к верху туман, які ляжаў на загонах зжатага і пастаўленага ў бабкі жыта. Ззаду ў нас—Слуцак, вакзал з соткамі вагонаў, якія нагружаны вялікай вартасьці маемасьцю, якую трэба было, чаго-б гэта ні каштавала, адстаяць і адаслаць у тыл. Недалёка, за рэчкаю—пазнанцы. Але што гэта? Абман зроку? Не, снапы... так і ёсьць—снапы пачынаюць паволі шавяліцца і рухацца наперад: ноччу пазнанцы пераправіліся праз раку і цяпер ідуць у наступленьне. Дружна спатыкаем гасьцей і пасьля шэрагу паўторных атак адбіваем ворага і пры дапамозе падасьпеўшых з Бабруйску сьвежых сіл без аглядкі гонім яго вёрст 20.

Замораныя сабраліся мы ўвечары і парашылі адпачыць.

— „Хіба яны таксама былі з намі?“—пытаю сам у сябе я, гледзячы на двох падлёткаў—беларуса і яўрэя, якія гнуліся ад цяжасьці вінтоўкі.

— „Так, гэта комсамольцы. Яны прышлі на наш вучастак ноччу. Шкада, што ты ня бачыў, як стралялі яны, стоячы бяз прыкрыцьця па пазнанцах“—тлумачыць мне таварыш, які быў разам з імі ў бойцы. Яны таксама ведалі свайго ворага.

**Р. Ш.-р.**

# Адгадай.

Пад рэдакцыяй *А. Круталевіча.*

**Задачка № 32.**

Які з двух слоікаў (банак) больш ёмісты—правы, шырокі, або левы, які ў тры разы вышэй, але затое ў два разы вужэйшы?

**Задачка № 33.** Адзін коопэратыў дае сялянам 7 проц. скідкі і, апрача таго, у выпадку продажы за гатоўку (за налічныя грошы) дае яшчэ 12 проц. скідкі з паніжанай цаны. Другі коопэратыў дае 12 проц. скідкі з пачатковай цаны і, апрача таго, 7 проц. з паніжанай цаны. У якім коопэратыве выгадней купляць тавар за гатоўку?

**Задачка на перастаўку № 34, дзядзькі Міхалкі.**

| | | |
|---|---|---|
| ла<br>ьц | дв<br>ба | іп<br>ко |
| на<br>ба | жы<br>ос | ны<br>ці |
| оў<br>сь | ра<br>зл | ае<br>ва |

Дзевяць частак гэтага квадрата пераставіць так, каб можна было прачытаць дзьве беларускія прыказкі.

**Задачка № 35, дзядзькі Міхалкі.**

Ад кожнага з наступных слоў адкінуць па дзьве літары; застанецца прозьвішча поэта і назва яго твору:

**Гурок, шкло, цэбар, човен, макі.**

**Шарада № 36, дзядзькі Міхалкі.**

Пачаткам шарады маёй
„Нямнога“ ты кажаш.
Другою-ж часткаю словы
У выразах ты вяжаш.
А трэцюю частку чытаў
Ты зараз; каротка яна.
Чацьверта—эгіпецкі бог.
Канец—гэта ты... Адгадаў?
Напэўна ‘шчэ не... Знаёма табе
Павінна быць цэлае, што на стале
Ляжыць пад рукою тваёй...
Затым, вось канец і шарады маёй.

**Загадка № 37, дзядзькі Міхалкі.**

Які ў пачатку канец і ў канцы пачатак?

---

Усім, хто разьвяжа ўсе задачкі, зьмешчаныя ў гэтым нумары, рэдакцыя будзе высылаць дармова „Маладога Аратага“ ў студзені і лютым 1926 году.

---

## Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

**М. Я. Клімянкоў.** Твой допіс „Ноч 31-га кастрычніка“ дужа спазьніўся, а таму зьмешчаны ня будзе. Пішы аб працы комсамольскіх ячэек вашага раёну і наогул аб жыцьці ўсяе вясковае моладзі. Рэдакцыя чакае.

**Ян** (Пухавіцкі раён) За адсутнічаньнем на гэты раз месца твой допіс „Аб'яднаны комсамольскі сход“ зьмешчаны ня будзе. Ты пішаш добра і рэдакцыя пэўна ў тым, што пачатую справу ты палюбіш і будзеш часта прысылаць допісы ў сваю часопісь. Напішы, як шмат чытае ваша моладзь „Мал. Араты“, што ў ім карыснага і што не.

**Жодзінскі** (Жодзіна, Смалявіцкі раён). „Няма парадкаў“ пераслана ў рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска“.

**Прыслаўшым** матарыял аб сьвяткаваньні 8-й гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі—друкавацца ня будзе. Позна.

**А. Фядосцаву.** Верш „З ветрамі буйнымі“ друкавацца ня будзе. Ты-ж яшчэ не навучыўся пісаць пабеларуску, а ўжо вершы ўзяўся пісаць. Раім раней навучыцца беларускай мове.

**П. Сіманчыку.** Вершы і частушкі слабы. Вучыся беларускай мове і чытай творы нашых пісьменьнікаў-маладнякоўцаў. Чакаем новых твораў, частушак...

**Паўлоўскаму.** Як бачыш, твой верш зьмясьцілі. Чакаем твораў Барысаўскай філіі Маладняка.

**В. Кавалю.** У прысланых табою вершах пануюць маладнякоўскія вобразы. Вось прыклад:

Ой, вёска, чагосьці
(Пад напеў іржаных палёў)
Забунтарыла ты
У блакіце тваіх
Васількоў!

Гэта добра. Але дрэнна тое, што ты яшчэ не аўладаў у вершах зьместам. Здольнасьць маеш. Супрацоўнікам залічылі. Чакаем новых твораў.

**Ул. Кавалёву.** Верш „Падаўся“ слабы. Чакаем новых.

**Я. Будзько,** Сатыра „У сёньнешні дзень“ ня пойдзе. Раім чытаць вершы Крапівы і Дзям'яна Беднага.

**А. Вясковаму.** Верш „Заходніку“ слабы. Вось паглядзі сам:

Стогне брат заходнік, долю праклінае,
Церпіць гвалты, зьдзекі польскіх ён паноў.
Хвіліны і часу таго ён чакае,
Калі край разлучны злучыцца ізноў.

Пісаць не пакідай. Чакаем новых твораў.

**С. Нортману.** Апавяданьне „Жыдок“ слабое. Перш, чымсь пісаць апавяданьні, пачытай творы беларускіх прозаікаў—К. Чорнага, М. Зарэцкага і інш. У іх ты навучышся аўладаць тэхнікай пісаньня ў прозе, як: разьвіцьцё сюжэту, вобразнасьці і інш. Чакаем допісаў.

---

Рэдактары: { **А. Самахвалаў.**
**Іл. Барашка.**

1-я Дзярж. друк. Зак. № 772—(1200). Галоўлітбел 14.362.

# …шырэньне „Маладога Аратага“.

## Ліст да рэдакцыі.

**Наша часопісь „Малады Араты“ у апошнія часы значна палепшылася. Шмат ужо цікавых матар'ялаў дзеля вясковае моладзі можна знайсьці ў ёй; вершы, апавяданьні моладзь перачытвае па некалькі разоў. На малюнкі ўжо можна заглядзецца, аддзел „Наша жыцьцё“ складаецца з узорных допісаў—як трэба і як ня трэба працаваць.**

**Надрукаваныя п'есы нарасхоп ставяцца на вясковых сцэнах (Хведзька комсамолец і Нечаканае). Адным словам, часопісь адбівае ўсё наша жыцьцё, чаму яна дзеля нас зьяўляецца роднай і дарагой. Мы ўсёй сілай стараемся пашырыць яе, але ў гэтым часта зьяўляюцца перашкоды... Трэба прызнацца, што нашы райкомы, акружкомы мала чаго яшчэ зрабілі ў справе распаўсюджваньня часопісі.**

**Думка, што „Малады Араты“ чаму-небудзь возьме ды зачыніцца, нам не дае пакою. Тугавата з тыражом. Але нічога, братцы, трымайцеся там, а мы вам тутака будзем памагаць. Зараз перад намі стаіць ва ўсю шырыню задача і мы яе разьвяжам,—гэта ўтроіць тыраж „Маладога Аратага“.**

**У гэтым мы ні перад чым не застановімся. Мы пойдзем па вёсках, будзем трубіць кожнаму хлапцу і дзяўчыне: выпісвай і чытай „Малады Араты“. Мы організуем гурткі прыхільнікаў „Маладога Аратага“. Мы будзем паднімаць юнкораўскі рух на вёсцы. А вам, рэдакцыі, параім дагаварыцца там, дзе гэта трэба, і вылучыць на кожную акругу хаця па двох упаўнаважаных па распаўсюджваньні „Маладога Аратага“. Гэта, бачыце, дзеля таго, што надта шмат ёсьць такіх вёсак, у якіх „Малады Араты“ яшчэ не заглядаў і пра якога яшчэ ня ведаюць.**

**Ад гэтага затратаў вялікіх ня будзе, карысьць жа будзе вялікая.**

**„Малады Араты“ трэба падняць на належную вышыню. Трэба яго пашырыць.**

**З компрывітаньнем—**
**Юнкоры: Шпілеўскі Міхась,**
**Тараповіч Уладзік.**

**Выгода, Чырвоная-Слабада, Случчына.**

## Адказ рэдакцыі на ліст юнкораў.

**Дарагія таварышы!**

З вялікай зацікаўленасьцю прачыталі мы ваш ліст. Рэдакцыя спадзяецца, што ня меншую цікавасьць выкліча ён і ўва ўсіх нашых чытачоў, якія з гэткай самай прыхільнасьцю адносяцца да сваёй часопісі.

Мы зусім згаджаемся з вамі, дарагія таварышы, што пашырэньне нашай часопісі сярод усёй сялянскай моладзі—справа і рэдакцыі і саміх чытачоў.

Вашы заўвагі мы прымаем з прыемнасьцю і пастараемся надалей зрабіць усё ад нас залежнае, каб „Малады Араты“ зьявіўся неабходнасьцю кожнага комсамольца, кожнага вясковага хлапца. Мы будзем і надалей імкнуцца да палепшаньня часопісі з боку якасьці і падбору матар'ялу.

У сваю чаргу мы ўскладаем вялікую надзею на вас і на ўсіх нашых чытачоў у справе пашырэньня часопісі. Толькі агульнымі сіламі мы здолеем палепшыць і пашырыць нашу часопісь „Малады Араты“.

**Рэдакцыя.**

---

# Нашы выклікі.

Я, вясковы хлапец, усягды чытаю і выпісваю сваю родную часопісь „Малады Араты“. Таксама зьяўляюся супрацоўнікам яе.

Я вельмі жадаю, каб з мяне бралі прыклад другія вясковыя хлапцы і мелі сувязь з „Маладым Аратым“.

Дзеля гэтага падпішэцеся на часопісь:

І. Бірала. М. Людчык. Г. Жоравік. Р. Людчык. Е. Страх. С. Шылаў. Зьм. Бірала. І. Бірала. Ев. Страх. Як. Страх. З. Зубок. Домна Лукьянава. С. Чвэк. С. Новадворскі. А. Новадворскі. П. Кароткі.

**Захар Бірала.**

* * *

Я, селянін м. Капылю *С. Дземідовіч,* выпісваю „Малады Араты“ на 3 месяцы і заклікаю падпісацца тт.: *Міхася Багдановіча, Кастуся Зарамбоўскага, Веру Чарнушэвіч, Андрэя Курыльчыка, Юліка Чарнушэвіча, Міколу Дземідовіча.*

* * *

Выпісваю родную часопісь „Малады Араты“.

Прашу пасьледаваць майму прыкладу наступных т. т.: *Пікуліка Грыгора, Дзятлоўскую Насту, Абмётка Івана, Міхалевіча Ів. і Тодара, Мультана Ул., Базыля, Сьцёпку, Кулінковіча Ул., Мурашка Міхася, Ерахоўца Барыса,* (Аз. Слабадзкая яч. ЛКСМБ), *Ваўка Хаіма* (Скурацкая яч. ЛКСМБ).

**П. Васілёнак.**

---

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

ВЫДАВЕЦТВА

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

### „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

УМОВЫ ПАДПІСКІ

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к.
На 3 м-цы—75 кап. На 1 год—3 р. — к.

Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.

### БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. організац.). У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Беларусі.

УМОВЫ ПАДПІСКІ

На 1 м-ц—20 кап. На 6 мес.—1 р. 20 к.
На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 р. 40 к.

Часопісь, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках ДВБ.

ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.

### УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | 15 к. | на 6 месяцаў | 90 к. |
| на 3 месяцы | 45 к. | на 1 год | 1 р. 80 к. |

Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:

Менск, Комсамольская 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“